як нацыі. Аднак захаванне нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнага гонару ўэльсцаў перашкодзіла знікненню гэтага народа, які мае больш чым тысячагадовую гісторыю, багаты сваімі традыцыямі і культурай, які з'яўляецца яскравым прыкладам для іншых народаў. Нацыянальны рух знаходзіць усё большую падтрымку сярод розных пластоў насельніцтва Ўэльса, асабліва моцныя тыя арганізацыі, мэтай якіх з'яўляецца культурнае адраджэнне гэтага народа. Набіраюцца моцы палітычныя аб'яднанні, асноўным патрабаваннем якіх з'яўляецца аўтаномія Ўэльса, самастойнасць у вырашэнні кіраваннем сваімі землямі, вырашэннем свайго лёсу. „Уэльсцы — нацыя са сваёй мовай, літаратурай, інстытутамі і звычаямі"[26].

1. Гроздова И.Н. Кельтские народы Британских островов // Этничные процессы в странах Зарубежной Европы. М., 1970. С. 180.
2. Тамсама. С. 182.
3. Coupland R. Welsh and scottish nationalism. London, 1963. P. 259.
4. Тамсама. С. 263.
5. Тамсама. С. 201.
6. Тамсама. С. 210.
7. Тамсама. С. 201.
8. Тамсама. с. 227.
9. Stones Y. Modern welsh history. London, 1965. P. 295.
10. Coupland R. Указ. твор. С. 349.
11. Jones Y. A new geography of Wales. Cardiff, 1964.
12. Цыт. па: Гроздова И.Н. Указ. твор. С. 189.
13. Тамсама.
14. Гл.: Гроздова И.Н. Указ. твор. С. 190.
15. Griffith G. The Welsh. London, 1947. P. 12.
16. Гл.: Owen T. Wtlsh folk customs. Cardiff, 1953. P. 149.
17. Гл.: Welsh rural community. London, 1961. P. 151.
18. Welsh rural community. P. 253.
19. Гл.: Coupland R. Указ. твор. С. 371.
20. Watson M. Contemporary Minority Nationalism. London & N.Y., 1990. P. 9.
21. Birch A. Nationalism and national integration. London, 1989. P. 89.
22. Тамсама. С. 90.
23. Watson M. Указ твор. С. 16.
24. Brown A. The Wales. Cardiff, 1960. P. 190.
25. Тамсама. С. 193.
26. Jones Y. Указ. твор. С. 9.



*Вольга САБАЛЕЎСКАЯ*

# *АД КАЦЯРЫНЫ II ДА АЛЯКСАНДРА III*

## *БЕЛАРУСКІЯ ГЭБРАІ Ў РАСІЙСКІМ ЗАКАНАДАЎСТВЕ КАНЦА XVIII – XIX СТАГОДДЗЯЎ*



тнічная гісторыя гэбраяў — гэта тэма, якой унікалі савецкія гісторыкі, справядліва асцерагаючыся абвінавачванняў з боку ўладаў калі не ў антысемітызме, то ў сіянізме. І нават сёння, калі ў грамадстве адсутнічае ідэалагічная запраграмаванасць, размова на гэтую тэму разгортваецца складана і нават пакутліва. Плоскасць міжэтнічных стасункаў напоўнена эмоцыямі, з'яўляецца балючай для адных і нярвовай для другіх. Адной з прычын гэтага мы можам лічыць існаванне пэўных негатыўных стэрэатыпаў, народжаных фанатызмам, няведаннем і агрэсіўнасцю. Спробай барацьбы з гэтымі ганебнымі з'явамі і будзе наступны артыкул.

Вызначэнне юрыдычнага статуса і дзяржаўнай палітыкі адносна пэўнай сацыяльнай групы мае надзвычай важнае значэнне для разумення яе месца ў грамадстве. Асабліва верна гэта для гэбраяў як для супольнасці, якую заканадаўцы на працягу канца XVIII – пачатку XX стагоддзяў вылучалі з ліку іншага насельніцтва краіны, імкнучыся змяніць традыцыйны лад гэбрайскага жыцця.

Да апошняй чвэрці XVIII стагоддзя расійскае самаўладдзе зацята змагалася з гэбрайскімі перасяленцамі з Заходняй Еўропы. Тыповыя захады адносна іх у 60-х гг. XVIII стагоддзя — гэта забароны сяліцца ў Расіі і выгнанні, напрыклад, у цараванне Кацярыны І (1727), Елізаветы І (1743), Кацярыны ІІ (1762). Манархі згодны былі мірыцца з гэбрайскай прысутнасцю толькі на кароткі час, дастатковы для правядзення гандлёвых аперацый. Сітуацыя карэнным чынам змянілася ў 1772 годзе, калі да Расійскай імперыі былі далучаны ўсходнія раёны Рэчы Паспалітай з амаль 100-тысячным гэбрайскім насельніцтвам. На гэтых землях гэбрайская эканамічная дзейнасць была надзвычай добра дапасавана да гаспадарчай структуры краіны. Праз гандаль яны злучалі аграрны сектар з гарадскім, насычалі памешчыцкую гаспадарку наяўнымі грашыма, забяспечвалі канкурэнцыю ў рамястве, гандлі, пасярэдніцтве. Шмат гэбраяў працавала ў сферы арэнды і гэта таксама было карысна для паноў, бо вызваляла іхныя галовы ад камбінавання камерцыйных інтарэсаў, у якіх яны найчасцей былі некампетэнтныя, давала шмат вольнага часу для вядзення „свецкага жыцця", якое і было, па меркаванні эпохі, найлепшай сферай прыкладання энергіі для любога двараніна. Па трапным выразе М.Маўраха, шляхціч лічыў гэбрая паразітам, але паразітам, без якога памешчык абсалютна бязрадны [1].

Такім чынам, не маючы ўжо магчымасці пазбавіцца ад сваіх нованабытых падданых, бо гэта прынесла б вялікія гаспадарчыя страты, расійская манархія ў апошняй чвэрці XVIII стагоддзя пачала сістэматычную працу па вызначэнні юрыдычнага статуса гэбраяў. Тагачасную расійскую Феміду, Кацярыну II, не абцяжарвалі рэлігійныя забабоны яе папярэдніц, якія, як і Елізавета I, не жадалі „ад ворагаў Хрыстовых цікавай карысці". Кацярына Вялікая была прагматычнай, на яе свядомасць паўплывала філасофія Асветнікаў, „якія хацелі зрабіць з іх (гэбраяў. — *Аўт.*) добрых грамадзянаў, роўных з іншымі па правах і абавязках за кошт разбурэння гэбрайскай незалежнасці і культуры" [2]. Але і з'яўляючыся абсалютнай манархіняй, Кацярына II вымушана была лічыцца з меркаваннем па-

мешчыкаў і бюргераў, якія асцерагаліся пранікнення гэбраяў у эканоміку і былі заклапочаныя з'яўленнем канкурэнтаў.

На палітыцы гэтай царыцы адносна гэбраяў адбіваліся не толькі перакананні самой Кацярыны, істотна змененыя Французскай рэвалюцыяй, але і дух эпохі Асветленага абсалютызму, інтарэсы ўплывовых расійскіх колаў, таму з першага позірку заканадаўства ў яе рамках здаецца незразумела супярэчлівым. Амаль аднačасова мы сустракаем і абмежавальныя, і спрыяльныя для гэбраяў захады. У 1775 г. уводзіцца новы адміністрацыйны падзел, а ў 1785 ствараюцца органы гарадскога кіравання і выбраныя судовыя ўстановы для дваран, мяшчан і вольных сялян, што не толькі ўзмацніла кантроль цэнтральнай улады, але аднačасова і павялічыла палітычныя правы саслоўяў, у тым ліку гэбраяў з мяшчанаў[3]. Так Расія апынулася першай краінай Еўропы, дзе гэбраі выступалі ў якасці суб'ектаў палітыкі. Вядома, тады не было яшчэ нават і гаворкі пра раўнапраўе ўсіх падданых: колькасць гэбрайскіх дэпутатаў не павінна была перавышаць 1/3. Сянацкі ўказ ад 7 траўня 1789 года скасаваў „забарону памешчыкам у вёсках аддаваць іх вінакурні і корчмы гэбраям на водкуп", што давала прастору аднаму з самых прыбытковых заняткаў, дазваляла гэбраям сведчыць у судзе і не затрымліваць іх „прымусова ў гарадах, калі ім па гандлёвых справах трэба адлучыцца на вёску" [4]. 22 чэрвеня 1790 года дазволена адчыніць гэбрайскую друкарню ў Маскве [5].

Аднačасова пакладзены пачатак вылучэнню гэбраяў у асобную групу з абмежаванымі правамі: з 1772 года яны, у адрозненне ад іншых падаткаплацельшчыкаў, уносяць падаткі як за асоб мужчынскага, так і жаночага полу, захавана традыцыйнае самакіраванне — кагал, які станавіўся гарантам своечасовай выплаты падаткаў [6]. Указ 1791 года абмежаваў тэрыторыю рассялення гэбраяў, а з 1 ліпеня 1794 года ўдвая павялічыліся падаткі з гэтай групы насельніцтва. Накіраванасць на хрысціянізацыю ўвасобілася ва ўказе 17 кастрычніка 1776 года, які надаваў выхрэстам роўныя з іншым насельніцтвам краіны правы [7]. Гэта абарочвалася для неафітаў аўтаматычным зніжэннем падаткаў і ліквідацыяй дыскрымінацыйных пастановаў.

Эпоха Паўла I (1796 – 1801) пакінула няшмат прававых дакументаў у заканадаўстве аб гэбраях, але стала часам, калі манархія бліжэй пазнаёмілася з жыццём гэтай супольнасці. З мэтай вывучэння гэбрайска-хрысціянскіх стасункаў на Беларусь былі накіраваны дзве камісіі, узначаленыя губернатарам Літвы І.Фрызелем і вядомым паэтам, сенатарам Г.Дзяржавіным. Сярод іншых задач перад імі стаялі і наступныя: адказаць на пытанні, ці маюць гэбраі дачыненне да дрэннага становішча і голаду сярод мясцовых сялян і якія рэформы можна было б правесці для папраўкі гэтага? Па матэрыялах працы камісій саноўнікі, якія іх узначальвалі, падавалі даклады, якія хаця і адрозніваюцца па духу, стылю і прапанаваных захадах, але маюць агульныя рысы. Іх аўтары, напрыклад, ацанілі стан масаў беларускага гэбрайства як вельмі бедны, заявілі пра неабходнасць звярнуць нарэшце асаблівую ўвагу на рэфармаванне гэбрайскага жыцця, карэнным чынам змяняючы яго асновы праз асвету і ліквідацыю традыцыйнай адасобленасці, натхняльнікам якой ім здаецца кагал. На фармаванне высноваў камісій паўплывалі ідэі Асветніцтва, якія спалучыліся з адмоўным і падазроным стаўленнем хрысціян да іўдзееў.

І.Фрызель, які меў больш ліберальныя погляды і, магчыма, быў знаёмы з ходам дыскусій і прапановамі па вырашэнні „гэбрайскага пытання", што прагучалі на польскім Чатырохгадовым сейме, выказаўся за мяккую і ўзаемакарысную інтэграцыю гэбраяў у расійскае грамадства. Але і ў яго дакладзе мы знойдзем абвінавачванні ў адрас гэбраяў у рэлігійным фанатызме і забабонах. Згодна з ягонай думкай, мэта рэфармавання ў наступным: „Пакласці канец неўладкаванасці ў гэбрайскім народзе, перапыніць драпежніцтва кагальных старшыняў, засцерагчы простых гэбраяў ад прыгнёту і прывесці гэты народ у карысны для дзяржавы стан" [8]. Таму аўтар прапануе ўключыць гэбраяў у адпаведныя іх фінансаваму стану і заняткам саслоўі, каб яны маглі карыстацца ўсімі законнымі прывілеямі і ўдзельнічаць у мясцовым самакіраванні. Дэталёвую распрацоўку рэформы І.Фрызель мяркуе даручыць кампетэнтным асобам, у лік якіх неабходна ўключыць і вучоных гэбраяў.

Кансерватар Г.Дзяржавін, які таксама ўпэўнены ў неабходнасці „распасцірацъ і на гэбраяў сваё апекаванне, каб яны і сабе, і грамадству былі карысныя" [9], варожа ставіцца да гэбрайскага традыцыйнага ладу жыцця і называе яго ўплыў на хрысціян „псуючым". Галоўная задача рэформы бачыцца ім у ліквідацыі кагалу як алігархічнай структуры, выкараненні „шкодных забабонаў рэлігіі". Для гэтага прапануецца прыцягнуць гэбраяў да рамяства ды земляробства на тэрыторыі мяжы аселасці.

Але доўгачаканая рэформа была праведзена толькі пасля смерці Паўла. Сярод

пастановаў жа, што належалі яго кароткаму цараванню, можна вылучыць увядзенне кантроля за гэбрайскім кніжным імпартам: 11 снежня 1797 года на Рыжскую мытню прызначаны цэнзарамі М.Гекіль і Л.Эзекіль.

Пачатак новага стагоддзя, які супаў з новым цараваннем, быў эпохай ліберальных настрояў і светлых надзей на будучыню ва ўсіх сферах грамадства. Чаканыя змены закранулі і гэбрайскую суполку. Да праўлення Аляксандра I (1801 – 1825) належыць стварэнне чатырох „гэбрайскіх камітэтаў", г.зн. камісій, заклiканых аналізаваць стан гэбраяў у Расіі. Найбольш плённай была дзейнасць першага камітэта, таму што менавіта яна скончылася напісаннем „гэбрайскай канстытуцыі". Але хаця ў журнале яе паседжанняў і з'явіўся ліберальны запіс: „Наколькі магчыма — менш забарон, наколькі мажліва — больш свабоды", агульны характар захадаў „Усталявання аб гэбраях" 1804 года даволі абмежаваны. Да саміх гэбраяў заканадаўцы па-ранейшаму ставяцца як да іншароднага, небяспечнага элементу, які наўмысна шкодзіць расійскаму народу. Ды і наогул, як скептычна заўважае Ю.Гесэн, „гэбрайскую рэформу было вырашана правесці не столькі таму, што гэтага настойліва патрабавала яго (гэбрайскае насельніцтва. — *Аўт.*) цяжкае становішча і несуразмернасць ролі, якую адыгрывала гэтая частка насельніцтва ў беларускай эканоміцы і яе юрыдычнага стану, а таму, што вынікі гэтага жыцця адбіваліся на мясцовым хрысціянскім грамадстве" [10].

Згодна з „Усталяваннем аб гэбраях" 1804 года, яны лічыліся вольнымі людзьмі з няпоўнымі грамадзянскімі правамі. Ім гарантаваны недатыкальнасць маёмасці, абмежаванае самакіраванне. Кагал быў пакінуты ў якасці ўстановы, якая збірала і своечасова плаціла падаткі з гэбраяў сіламі саміх жа гэбраяў. Кагальныя абіраліся сходам абшчыны і зацвярджаліся губернскім праўленнем. Былі прынятыя захады супраць усеўладнасці кагалу: улада ў ім падзелена на свецкую і рэлігійную. На чале рэлігійнай стаялі рабіны, якім забаронена прымяняць херэм (адлучэнне, праклён), што істотна падрывала аснову іхнага аўтарытэту. На практыцы ж херэм працягваў накладацца насуперак урадавай забароне.

Улады садзейнічалі развіццю гэбрайскага рамяства і земляробства праз ільготнае падаткаабкладанне і субсідыі, заахвочвалі гэбраяў да пераходу ў лік купцоў і фабрыкантаў: краіне былі патрэбныя капіталы, падаткі з гэтых капіталаў і людзі, дасьведчаныя ў вядзенні гандлёва-прамысловых аперацый. Але на практычнае стымуляванне гэбрайскай прамысловасці „Ўсталяванне" адпускала мізэрную суму — 20 тысяч рублёў, а для каланізацыі недастатковых зямельных масіваў — 30 тысяч дзесяцін. Пры складанні закона быў праігнараваны той факт, што гэбрайскія масы знаходзіліся ў галечы і не мелі магчымасці рэалізаваць правы на арганізацыю буйнога гандлю ці прамысловых прадпрыемстваў. Такім чынам, фактычна будаўніцтва гэбрайскай прамысловасці павінна было весціся сіламі саміх гэбраяў, а дзяржава толькі вялікадушна згаджалася не перашкаджаць ім у гэтым.

Рабіліся крокі па ліквідацыі замкнёнасці і некаторай еўрапеізацыі гэбрайскага асяроддзя. Дазваляючы гэбраям атрымліваць адукацыю ў агульных школах, „Усталяванне" патрабавала для гэтага ведання расійскай ці польскай моваў, што павінна было спрашчаць асіміляцыю моладзі. Такая ж умова была пастаўлена перад абранымі ў склад магістрата.

„Гэбрайская канстытуцыя" змяшчала шэраг пунктаў, рэзка супярэчных статусу гэбраяў як вольных грамадзян. Ім забаранялася займацца вінакурэннем і гандлем спіртнымі напоямі, улады абвяшчалі прымусовае высяленне гэбраяў з сельскай мясцовасці. Абсалютная большасць гэбраяў-вінакураў, пастаўленых на мяжу выжывання ўціскам памешчыкаў (сапраўдных уласнікаў корчмаў) была асуджана на разарэнне, бо не мела сродкаў для перасялення разам са сваёй маёмасцю ў горад. Барацьба з карчмарствам, шматразова перапыняючыся, працягвалася з 1804 па 1863 гады. Непаслядоўнасць у правядзенні перасяленняў, шматразовы перагляд раней прынятых пастаноў, вялі да памылак у дзейнасці мясцовых улад. Так, у Гродзенскай губерні ў 1819 годзе незаконна праводзіліся дэпартацыі з сельскай мясцовасці, спыненыя толькі пасля скаргі ў сталіцу дэпутата гэбрайскага народа З.Зонэберга [11].

Наколькі ўзважаным і патрэбным для дзяржавы было перасяленне гэбраяў у гарады? Звернемся да ацэнкі сучасніка, міністра духоўных спраў і народнай адукацыі А.М. Галіцына, выказанай у лісце да гродзенскага губернатара: „1. У мястэчках няма промыслу і таргоў на харчаванне для гэбраяў; 2. Няма столькі фабрык, каб гэбраі знайшлі на іх працу; 3. Гэбраі, што вырашылі наняць землі ў памешчыкаў, не маюць магчымасці завесці гаспадарку ў такі кароткі час; 4. Амаль няма вольных казённых земляў у тых губернях, дзе жывуць гэбраі. Што датычыцца перасялення іх у аддаленыя губерні, то перасяленне 60 тысяч сямей звязана з надзвычайнымі стратамі для казны" [12].

Ды і наогул абсурдным было абвінавачванне гэбрайскага народа ў наўмысным спойванні расійскіх сялян. М.Ляскоў адзначае: „У вялікарускіх губернях, дзе гэбраі не жывуць, лік асуджаных за п'янства пастаянна больш, чым колькасць выпадкаў у мяжы аселасці. Перанясенне абвінавачвання гэбраяў у народным п'янстве належыць да самага найноўшага часу, калі расійцы пачалі шукаць магчымасць ускласці на каго-небудзь віну за сваю доўгую гістарычную памылку" [13].

Дакладную ацэнку атрымала палітыка Аляксандра І адносна гэбраяў у Ю.Гесэна: „У імя прэстыжу існага парадку гэбраі выстаўляюцца адзінымі віноўнікамі ўсіх бед; з мэтай пакінуць недатыкальным гэты парадак, робіцца спроба карэнным чынам пераўтварыць паспешлівымі, крутымі захадамі гэбрайскае жыццё — толькі яго адно — пры захаванні іншых акаляючых яго ўмоваў; праводзячы рэформу, урад наўмысна ігнаруе ейныя цяжэйшыя эканамічныя вынікі для гэбрайскага насельніцтва" [14].

Рэакцыя апошніх гадоў царавання Аляксандра І працягвалася і пры Мікалаі І (1825 - 1855). Новы цар імкнуўся ізаляваць Расію ад заходніх рэвалюцый, выкараніць вальнадумства, якое ён бачыў у любой самабытнасці. Галоўнай мэтай Мікалая І было стварэнне бязлікай масы падданых, знітаваных у трывалую еднасць — праваслаўны расійскі народ. Русіфікатарства, у межах трыяды „Праваслаўе. Самадзяржаўе. Народнасць" было накіравана супраць усіх „нярускіх народаў" — палякаў, беларусаў, татар і г.д.

Асноўныя напрамкі палітыкі адносна гэбраяў, якія развіваліся Аляксандрам І, былі працягнуты і пры Мікалаі І, толькі характар іх стаў больш дыскрымінацыйным і гвалтоўным. Прадпрымаецца чарговая спроба кадыфікаваць расійскае права адносна гэбраяў: у 1835 годзе з'яўляецца новае „Усталяванне". Яно не ўнесла прынцыповых зменаў у жыццё гэбрайскай супольнасці Расіі, але вымушала яе звярнуцца да вывучэння расійскай мовы і прыняцця еўрапейскіх пабытовых традыцый: „§ 16. Гэбраі павінны мець спадчыннае прозвішча. § 18. Павінны карыстацца ва ўсіх публічных актах расійскай, а не гэбрайскай мовай. § 69. Кагальныя абіраюцца са здольных чытаць і пісаць па-расійску. § 77. Здольныя чытаць і пісаць па-расійску могуць быць абраныя ў члены гарадскіх дум, магістратаў і ратуш" [15].

Захавана мяжа аселасці, забарона займацца карчмарствам, вінакурэннем і сяліцца ў 50-вёрставай паласе каля дзяржаўнай мяжы. Трывалае месца ва ўрадавай палітыцы занялі захады, якія выдавалі жаданне манархіі „перавыхаваць гэбраяў" і адвучыць іх ад невытворчых відаў дзейнасці. Справядлівыя разважанні І.Г.Аршанскага пра прычыны такога дыктату: „Пры панаванні прыгоннага права, якое ўсяляла ў грамадстве пагарду прамысловай дзейнасцю і павагу зямельнай уласнасці і земляробства, натуральная агіда да выключна гандлёвага напрамку ў гэбраяў. Пры смутным разуменні задач дзяржаўнай дзейнасці, нікому ў галаву не прыходзіла сумненне наконт магчымасці і карыснасці штучнага адлучэнне народа ад таго ладу жыцця, да якога ён прызвычаіўся і навязвання яму далёкіх ягонаму духу заняткаў промыслу" [16]. Для далучэння гэбраяў да земляробства яшчэ Аляксандрам І на тэрыторыі мяжы аселасці, асабліва ў Наваросіі, былі створаныя гэбрайскія калоніі. На тэрыторыі Беларусі яны з'явіліся пасля 1835 года. Каланізатарства не атрымала тады распаўсюджання. „Усталяваннем" 1835 года для стымулявання пераходу гэбраяў да сельскай гаспадаркі былі прадугледжаны наступныя ільготы: „Каланістаў 1) вызваляць ад падушнага падатку на 50 год; 2) ад рэкруцкай павіннасці на 50 год; 3) ад земскіх падаткаў на 10 год; 4) паселеных на прыватных землях ад падушнага падатку вызваляць на 5 год" [17].

„Усталяванне" 1835 года было не адзіным прававым актам, прынятым у царававанне Мікалая І для юрыдычнага ўладкавання гэбраяў. У 1827 годзе выдадзены ўказ, які распаўсюдзіў на гэбраяў асабістае выкананне воінскай павіннасці. Рэкрутаў з гэбраяў набіралі ва ўзросце ад 8 да 25 год, малодшых накіроўвалі ў атрады кантаністаў, дзе адна частка дзяцей пад націскам ваеннага начальства прымала хрост, а другая гінула ад здзекаў. Час, праведзены ў кантанісцкіх ротах, не залічваўся ў агульны тэрмін воінскай службы (25 год), кантактаваць са сваякамі забаранялася. Новы ўказ падрываў давер да кагалу з боку народных мас, бо заможныя (дзеці рабінаў, кагальных, купцоў) у армію не набіраліся. „Рэкруцкім старастам" рэкамендавалася ў першую чаргу забіраць тых, хто дрэнна плаціць падаткі і займаецца жабрацтвам. Гэта стварала глебу для злоўжыванняў і ўнутрыкагальных канфліктаў. Указ 1827 года, які прынёс канфрантацыю ў гэбрайскі свет і стаў прычынай многіх асабістых трагедый, аб'ектыўна з'яўляўся крокам наперад у справе эмансіпацыі гэтай часткі насельніцтва, бо прыраўніваў гэбраяў да прадстаўнікоў іншых народаў у выкананні аднаго з галоўных абавязкаў грамадзяніна — абароне Айчыны.

У 1844 г. скасаваны орган гэбрайскага самакіравання — кагал. Гэбраі пераходзілі ў падпарадкаванне гарадскім думам і ратушам, дзе з гэтай нагоды ўтвораны спецыяльныя „сталы”. Для збору падаткаў і выканання рэкруцкай павіннасці захаваны пасады „рэкруцкіх старастаў”, зборшчыкаў падаткаў і іх памочнікаў у мясцовых гэбрайскіх абшчынах, якія перайманоўваліся ў гэбрайскія грамадствы. Нельга не зазначыць, што захад гэты мала што змяніў у гэбрайскім унутраным свеце і не пазбавілася ўлады заможная вярхушка абшчыны: яна і пад новай шыльдай працягвала кіраваць аднаверцамі. Пад кантроль грамадзянскай улады траплялі фінансы кагалу, але і гэта часта заставалася на паперы з-за цэлага шэрагу прычын, сярод якіх не апошнія — гэта „таямнічыя ўплывы” гэбрайскай алігархіі на карумпаваныя бюракратычныя колы Расіі.

Наконт юрыдычнай ліквідацыі кагалу ў дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі па „гэбрайскім пытанні” і ў многіх творах сучасных гэбрайскіх аўтараў існуе адзіная негатыўная ацэнка. Яны падкрэсліваюць ролю кагалу як сродку захавання гэбрайства, яго культуры і рэлігіі ў іншаэтнічным асяроддзі, але не ўтрымліваюцца ад ідэалізацыі гэтай установы. Вось што, напрыклад, мы можам прачытаць у Р.Сэмюэле: „У іх (у кагалах. — *Аўт.*) склаўся лад жыцця, заснаваны на братэрстве, добрасуседскіх адносінах і сапраўднай прыхільнасці адзін да аднаго” [18]. Але ў адносінах да расійскай сітуацыі першай паловы XIX стагоддзя погляд такі прынцыпова няверны. Ад абшчыннага братэрства не засталося і следу, аб гэтым сведчаць сацыяльныя канфлікты, рэлігійная барацьба пад сцягамі хасідызму (веры людзей простых і неадукаваных) і гэбрайскай Асветы — Гаскалы. Выбары ў кагальныя фармалізаваліся, да ўлады раз і назаўсёды прыйшлі тыя, хто меў грошы. Канфлікты перш за ўсё ўзнікалі вакол раскладкі падаткаў, што рабілі кагальныя, якія ніколі не забываліся на ўласныя інтарэсы і вакол дастаўкі рэкрутаў, якая ў поўнай меры лягла на плечы беднякоў. Даходзіла нават да таго, што кагальныя самі правакавалі ўмяшанне ва ўнутраныя справы суполкі „знешняй сілы”. Дакументы з фонду канцылярыі гродзенскага губернатара ўтрымліваюць звесткі пра выпадак, калі кагальныя звярнуліся да губернатара з прашэннем „прадпісаць гродзенскай паліцыі, калі б хто з аслушнікаў адмовіўся (плаціць падаткі. — *Аўт.*), то прымушала б яна яго да паседжання ў кагальным сходзе да таго часу, пакуль усе кагальныя нядоімкі спагнаныя б не былі” [19]. Як бачым, паводзіны кагальнай вярхушкі нясумяшчальныя з прынцыпам узаемадапамогі і з'яднанасці гэбрайскага свету.

Нельга не згадзіцца з цверджаннем, што кагал з'яўляўся захавальнікам гэбрайскай традыцыі. Але нельга не бачыць і другога боку справы: беручы пад абарону выключна іўдзейскія каштоўнасці, ён адначасова выракаўся таго, што магло ўзбагаціць гэбрайскі свет — агульначалавечай духоўнай культуры, адукацыі, дасягненняў перадавой навукі таго часу (у традыцыйнай гэбрайскай школе выкладаліся выключна рэлігійныя прадметы і не вывучаліся дакладныя навукі, замежныя мовы). Гэбрайская замкнёнасць шкодзіла перш за ўсё самім гэбраям, а кагалы з іх духам кансерватызму, падпарадкавання і нязменнага ўхвалення „старэйшых” (па ўзросту, па пазіцыі ў грамадстве) ператварыліся са стануючага (захаванне нацыянальнага) у стрымліваючы фактар для эканамічнай і культурнай дзейнасці гэбраяў.

Вядома шмат трапных афарыстычных характарыстык кагалу: „талмудычна-муніцыпальная рэспубліка” (Шчугуроў), „дзяржава ў дзяржаве” (Галіцын) [20] і інш. Пра гэбрайства можна сустрэць наступныя выразы: „акамянеласць, якая працягвае жыць”, „смоўж у шкарлупінні” [21]. Не ўсе гэтыя выказванні добразычлівыя, але ўсе яны справядліва падкрэсліваюць адасобленасць і законсерваванасць гэбрайскага традыцыйнага свету і яго аплоту — кагалу. Вядома, такая аўтаномія, яшчэ і ўвасобленая ў канкрэтным носьбіце, існаванне якога юрыдычна зацверджана, не магла не непакоіць Мікалая I, якому ў любой спецыфічнасці бачылася ядро патэнцыяльнага бунту. Улады пайшлі па самым простым шляху і забаранілі кагал замест таго, каб разабрацца ў каранях „гэбрайскага пытання” і рэфармаваць гэбрайскае самакіраванне. Такім чынам, вядома, праблема вырашанай быць не магла, бо замест аўтаноміі гэбраі не атрымалі грамадзянскія правы як гэта было, напрыклад, у Францыі.

У канцы 30-х пачатку 40-х гг. XIX стагоддзя ўведзены спецыяльныя падаткі з гэбраяў: 1839 год — „Пастанова аб каробкавым зборы”, згодна з якой атрыманыя з набыцця мяса, кашэрнага ўбою і гандлю кашэрным мясам і птушкай падаткі ішлі на выплату нядоімак казне, падтрымку дзяржаўнай школы для гэбраяў, земляробства і дабрачынных мерапрыемстваў. Акрамя гэтага абавязковага для ўсіх абшчыннікаў збору ўводзіўся „Дапаможны каробкавы збор” з нерухомасці, промыслаў, прыбыткаў. У 1844 г. узноўлены свечкавы збор з рытуальных шабатных свечак, якія запальвалі ў пят-

ніцу ўвечары ў кожнай гэбрайскай хаце. З гэтага падатку фінансаваліся дзяржаўныя гэбрайскія вучэльні.

У цараванне Мікалая І актыўна прадпрымаліся захады па „знешнім і ўнутраным" цывілізаванні гэбраяў. Як вядома, іўдзеяў Расіі гэтага часу вылучалі яскравыя побытавыя адрозненні. Яны заключаліся не толькі ў незразумелых для хрысціян звычаях, асаблівай мове, але і ў тым, што перш за ўсё кідаецца ў вочы — у вопратцы і знешнім выглядзе гэбраяў. Яны апраналіся ў традыцыйныя строі: мужчыны насілі тунікападобную кашулю, наверх — чорны лапсердак (накшталт кафтана), галаўныя уборы — шапкі ці ярмолкі, якія не здымалі ў памяшканні, фрызура — пейсы (доўгія валасы на скронях) і бароды. Асаблівыя прадметы — накідкі, каробачкі тфілін і тафесы — дапаўнялі адзенне ў час набажэнства ў сінагозе. Замужнія жанчыны насілі парыкі і хусткі на аголеных галовах, капелюшы ці спецыфічныя павязкі накшталт чалмы. Менавіта супраць экзатычнага знешняга выгляду гэбраяў адміністрацыя павяла бескампрамісную вайну. Калі ў 1804 годзе нацыянальнае адзенне дазволена насіць усюды, акрамя агульных навучальных установаў, то з 1840 года ўводзяцца дадатковыя абмежаванні: еўрапейскую вопратку абавязаны насіць гэбрайскія члены магістрата. У 1850 годзе забаронена апранаць нацыянальнае адзенне ўсім гэбраям наогул з 1 студзеня 1851 года, а ў сакавіку таго ж года „пастаўленыя па-за законам „жаночыя парыкі". У 1856 годзе забароны мінулых год яшчэ раз пацверджаны, бо гэбраі ўпарта ігнаравалі распараджэнні ўрада. Няма патрэбы казаць, што еўрапеізацыя адзення стала сапраўднай драмай для выхаваных у рамках традыцый артадаксальна веруючых гэбраяў: для іх гэта было ганебным парушэннем запаветаў продкаў. Да таго ж выкараненне нацыянальнай вопраткі праводзілася жорсткімі паліцэйскімі захадамі, якія суправаджаліся здзекамі і гвалтам.

„Унутранае цывілізаванне" прадугледжвала рэформу гэбрайскай асветы і адукацыі. Сістэма традыцыйных навучальных установаў гэбраяў складалася з наступных этапаў. Пачатковую адукацыю дзеці набывалі ў хедэрах, дзе вучыліся за плату; у меламедаў — прыватных настаўнікаў; у талмуд-торы, якая мела дабрачынны характар: акрамя ведаў вучні атрымлівалі тут ежу, вопратку, абутак. Утрымлівалася талмуд-тора на грамадскія сродкі [22]. З 13 год самыя таленавітыя паступалі ў ешыботы — вышэйшыя навучальныя ўстановы. Як казалася ўжо вышэй, гэбрайская школа звяртала ўвагу выключна на рэлігійнае выхаванне вучняў, захоўвала і перадавала традыцыі, давала веды аб гісторыі гэбраяў.

Царскі ўрад не збіраўся мірыцца з школьнай адасобленасцю. Таму 13 лістапада 1844 года ўступае ў дзеянне „Указ аб асвеце гэбрайскага юнацтва", сакрэтныя інструкцыі якога недвухсэнсоўна заяўлялі: „Мэта адукацыі ў збліжэнні з хрысціянскім насельніцтвам і вынішчэнні забабонаў, выкліканых вывучэннем талмуда" [23]. Указ прадугледжваў падрыў традыцыйнай сістэмы навучання праз увядзенне падатку на настаўніцкую дзейнасць і адкрыццё дзяржаўных вучэльняў з расійскім ухілам. Абмежаванае гэбрайскае кнігадрукаванне: па указу 29 снежня 1836 года зачынены ўсе гэбрайскія друкарні акрамя Віленскай і Кіеўскай [24]. Уведзена пільная цэнзура гэбрайскіх кніг, забаронена будаваць сінагогі каля цэркваў.

Такім чынам, цараванне Мікалая І, якое было адзначана асабліва актыўнай дзейнасцю ўрада ў галіне гэбрайскай палітыкі, прынесла супольнасці шмат абмежаванняў, ганебных для гэбраяў як чалавечых істот. Заканадаўчая дзейнасць была накіравана супраць гэбрайскай адасобленасці, мела ярка выяўленую русіфікатарскую афарбоўку.

Цар Аляксандр ІІ (1855-88) зрабіў спробу накіраваць Расію на шлях капіталістычнага развіцця. Абноўленая эканоміка не магла абысціся без гэбрайскіх прадпрымальнікаў, якія не толькі з'яўляліся носьбітамі капіталістычных ідэалаў, але і мелі для актыўнай дзейнасці неабходны досвед і капіталы. Але для гэтага патрэбна было правесці рэформы, якія скасавалі б найбольш агідныя дыскрымінацыйныя захады. Была спынена вярбоўка кантаністаў (1856); гэбраям-купцам 1 гільдыі, асобам з вышэйшай адукацыяй і рамеснікам дазволена сяліцца па ўсёй імперыі (1859-65 гг.) Вышэй зацверджаная 24 лістапада 1861 года Думка Дзяржаўнага савета дала магчымасць паступаць на дзяржаўную службу высокаадукаваным гэбраям. Законам 19 красавіка 1862 года вызначана: „Дзяцей асоб, што атрымалі навуковыя ступені, прымаць на службу без адрознення ў паходжанні" [25]. Указ 26 красавіка 1862 года зноў дазволіў адчыніць гэбрайскія друкарні ў мяжы аселасці [26]. У 1865 годзе ўказам аб заснаванні казённых расійскіх гэбрайскіх народных школ працягнута рэфармаванне сістэмы адукацыі. Па чарговым указе ўрада ў 1873 годзе заснаваны першапачатковыя 1-класныя гэбрайскія вучэльні, мэтая якіх — „вучыць гэбраяў у „расійскім духу" за іх жа кошт (каробкавы, свечкавы

зборы) расійскай мове і далучыць да агульнай культуры, не змешваючы з хрысціянамі" [27]. Адчынены настаўніцкія інстытуты.

Імкнучыся садзейнічаць развіццю эканомікі, урад спачатку не звяртаў прынцыповай увагі на нацыянальнасць тых, хто прыносіў казне стабільныя даходы. Але з цягам часу гэбрайская актыўнасць у прамысловасці і гандлі пачала абураць іх хрысціянскіх канкурэнтаў. У друку з'явіліся абвінавачванні ў „гэбрайскай эксплуатацыі карэннага насельніцтва". Напружанне ўпершыню прарвалося ў адэскім пагроме 1871 года.

Асабліва злоснае цкаванне гэбраяў у расійскім друку пачалося пасля забойства Аляксандра II (1 сакавіка 1881 года). Звязана гэта з тым, што сярод тэрарыстаў, якія здзейснілі замах, была гэбрайка Геся Гельфман. Уся падзея трактавалася антысемітамі як гэбрайская змова. Да таго ж у тыя веснавыя дні адбылося супадзенне двух вялікіх святаў: хрысціянскага Вялікдня, перад якім звычайна ўзрасталі антыгэбрайскія настроі і гэбрайскага Пурыму, вясёлае святкаванне якога было трактавана як радасць з прычыны смерці цара. Сітуацыя накалялася набліжэннем тэрміну ўнясення сялянамі арэнднай платы. Па звестках С.Рота, да восені 1881 года на поўдні краіны адбылося не менш за 160 пагромаў. Але „замест таго, каб прыняць захады для пакарання вінаватых, расійскі ўрад паспрабаваў вырашыць праблему, да якой была звернута ўвага сусветнай грамадскасці, рэпрэсіямі ў адносінах да ахвяраў" [28]. У маі 1881 года былі прынятыя законы, якія забаранялі жыхарства гэбраяў у вёсках мяжы аселасці. Гэта падрывала гэбрайскі гандаль, перашкаджала перамяшчацца па краіне. Акрамя таго, у цараванне Аляксандра III (1881 – 1894) у 1887 годзе абмежавана колькасць гэбрайскіх студэнтаў у ВНУ, у 1891 з Масквы выселены гэбрайскія дробныя рамеснікі і купцы, у 1892 аддана распараджэнне аб недапушчэнні гэбраяў у склад гласных гарадскіх дум па выбарах [29].

Разгледзеўшы расійскае заканадаўства адносна гэбраяў канца XVIII-XIX стст., можна зрабіць наступныя заўвагі: палітыка, якую праводзіла ў гэтай галіне права расійскае самаўладдзе, мела дыскрымінацыйны характар — яна была накіравана на асіміляцыю і хрысціянізацыю гэтай часткі падданых. Заканадаўства, якое паўстала з гэтай палітыкі, заблытанае, непаслядоўнае і мае выгляд шэрагу няўдалых спробаў. Праблема поўнай эмансіпацыі гэбраяў, вырашаная на той час некаторымі краінамі Еўропы і Амерыкі, для Расіі была яшчэ актуальнай.

---

[1] Maurach M. Russische Judenpolitik. — Berlin: Deutscher Verlag, 1939. S. 60-61.

[2] Haumann H. Geschichte der Ostjuden. — Mьnchen: Deutscher Tagenbuch Verlag, 1990. S. 76.

[3] Полное Собрание Законов Российской империи (далей — ПСЗРИ). СПб., 1830. Т. XX. С. 907.

[4] Тамсама. Т. XXII. С. 597.

[5] Тамсама. Т. XXII. С. 139.

[6] Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4 т. Т. 3. Мн., 1961. С. 625.

[7] ПСЗРИ. СПб., 1830. Т. XXIII. С. 552.

[8] Бэкон Г. Положение евреев после разделов Польши / / Главы из истории и культуры евреев Восточной Европы: В 6 ч. Иерусалим, 1995. Ч.6. С. 217.

[9] Букчин С. ...Народ, издревле нам родной. Мн., 1984. С. 44.

[10] Гессен Ю.И. Евреи в Росии: Очерки общественной, правовой и экономической жизни русских евреев. СПб., 1906. С. 2.

[11] Беларускі Дзяржаўны гістарычны архіў у Гродна (далей — БДГА ў Гродна). Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1768.

[12] Тамсама. Л. 9 аб.

[13] Лесков Н. Еврей в России: Несколько замечаний по еврейскому вопросу. М., 1990. С. 12, 14.

[14] Гессен Ю. Тамсама. С. 5.

[15] ПСЗРИ. СПб., 1836. Собр. 2. Т. X. Отд. 1. С. 311, 317, 318.

[16] Оршанский И.Г. Евреи в России: Очерки и исследования. СПб., 1872. Вып. 1. С. 165.

[17] ПСЗРИ. СПб., 1836. Собр. 2. Т. X. Отд. 1. С. 313.

[18] Сэмюэле Р. По тропам еврейской истории. Иерусалим, 1990. С. 252.

[19] БДГА ў Гродна. Ф. 1. Воп. 10. Спр. 91. Л. 1.

[20] Maurach M. Op. cit. С. 64. Голицын Н.Н. История русского законодательства о евреях: В 2 т. Т. 1 (1649 – 1825). СПб., 1886. С. 898.

[21] Очерк истории еврейского народа (Под ред. Ш.Эттингера: В 2 т. Иерусалим, 1990. С. 390; Евреи в Варшаве во время последнего польского мятежа: Очерк из еврейского быта. Вильна, 1869. С. 70.

[22] Моргулис М.О. О современных общественных школах евреев // Рассвет. 1880. № 5. С. 180, 183.

[23] Дубнов С.М. Всеобщая история еврейского народа: В 5 т. Т. 5. Новейшая история еврейского народа (1789 – 1881). СПб., 1914. С. 376.

[24] БДГА ў Гродна. Ф. 1. Воп.19. Спр. 1151. Л. 1.

[25] Оршанский И.Г. Русское законодательство о евреях. СПб., 1877. С. 329.

[26] Тамсама. С. 331-332.

[27] Леванда Л.О. Еврейские начальные училища // Еврейская летопись. М.-Л., 1926. Сб.4. С. 115.

[28] Рот. С. История евреев: С древнейших времен по Шестидневную войну. Иерусалим, б.г. С. 39.

[29] Дубнов С.М. Краткая история евреев. СПб., 1912. Ч. 11. С. 158.



*Дэрдр МЭНТЭЛЬ*

# *Што такое меншасьць ?*

Адносна грамадзтва канцэпцыя меншасьці мусіць засноўвацца не на колькасным прынцыпе. Групавое ўсьведамленьне свайго статусу як меншасьці вызначаецца сацыяльнымі і гістарычнымі фактарамі.

На Захадзе праблема меншасьцяў узьнікла на прыканцы XVIII-пачатку XIX стагодзьдзяў, калі ў выніку зьменаў палітычных межаў сярод новых нацыянальных дзяржаваў Эўропы пэўныя этнічныя групы трапілі пад дамінацыю іншых этнічных групаў ці нацыяў. Напэўна, найбольш уплывовым вызначэньнем канцэпцыі „меншасьці" зьяўляецца ўпершыню прапанаваная ў 1945 годзе дэфініцыя сацыёляга Льюіса Ўірта: „Мы можам вызначыць меншасьць як групу людзей, якая з прычыны сваіх этнафізычных ці культурных асаблівасьцяў выдзяляецца ў сваім грамадзтве і трактуецца рэштай гэтага грамадзтва як адрозная і няроўная група, якая з гэтай прычыны разглядае сябе як аб'ект калектыўнай дыскрымінацыі".

Згоднай з Уіртавай дэфініцыяй, група большасьці мае вышэйшы статус і большыя прывілеі; тыя, хто мае статус меншасьці, выключаныя з поўнага ўдзелу ў жыцьці грамадзтва і разглядаюць сябе ўласна як „асобных людзей". Падсумоўваючы вышэй сказанае, можна сьцьвердзіць, што прадстаўнікі групы меншасьці зьяўляюцца „вызначана іншымі", г.зн. характарызуюцца заўважнымі рысамі, якія адрозьніваюць іх ад астатніх у грамадзтве; яны вымушаныя адчуваць на сабе своеасаблівае стаўленьне з боку астатніх; і як прадстаўнікі гэтай групы ўсьведамляць перажытую імі дыскрымінацыю.

Антраполягі Чарльз Уаглі і Эрвін Харыс прапанавалі некаторыя ўдакладненьні дэфініцыі Ўірта. На іх думку, статус меншасьці атрымліваецца ў спадчыну такім чынам, што індывідум у адпаведнасьці з правіламі, усталяванымі ў грамадзтве, далучаецца да групы меншасьці нават калі ён ці яна не выяўляюць відавочных рысаў меншасьці. Напрыклад, у амэрыканскай расавай сістэме дастаткова наяўнасьці любой вядомай афра-амэрыканскай спадчыннасьці для таго, каб быць залічаным да „чорных" альбо „нягроідаў". Статус меншасьці, такім чынам, гэта штосьці набытае ад нараджэньня, чым штосьці атрыманае пасьля ў працэсе жыцьця. Уаглі і Харыс таксама лічылі, што меншасьці ўвогуле зьяўляюцца эндагамнымі, паколькі ім звычайна забаронена браць шлюб з прадстаўнікамі дамінуючай групы. Такія забароны спрыяюць падтрыманьню існуючых паміж большасьцю і меншасьцю разьмежаваньняў, што назаўсёды захоўвае прывілеі большасьці. Зазначым, што праблема не ў сэксуальным кантакце паміж дзвюма групамі, а хутчэй у пытаньні спадчыннасьці і яе перадачы. Эндагамія (шлюб паміж прадстаўнікамі адной групы) забясьпечвае пераход статусу большасьці толькі дзецям яе прадстаўнікоў, народжаным легітымна, што і робіць гэты статус недасяжным для іншых групаў.

Нягледзячы на тое, што формулу Ўаглі і Харыса можна выкарыстаць шмат у якіх сітуацыях дачыненьняў большасьць-меншасьць, усё ж-такі яна далёка не ўнівэрсальная. У сьвятле пазьнейшых досьледаў іхны крытэр „эндагаміі" патрабуе некаторых удакладненьняў. У той жа час цалкам справядліва, што эндагамія эліты, прывілеяванай групы, служыць для падтрыманьня яе межаў, меншасьці часьцяком бяруць шлюб зь іншымі меншасьцямі. Напрыклад, „інтэршлюб" паміж этнічнымі групамі ў сучасных Злучаных Штатах звычайна складаецца з партнэраў, якія прадстаўляюць розныя меншасьці. Досьвед апошніх гадоў сьведчыць аб тым, што зьяўляецца вялікая колькасьць групаў, якія лічаць сябе меншасьцю, паводзяць сябе адпаведным чынам, але не трапляюць пад крытэр атрыманага ў спадчыну статусу ці эндагаміі. Крыху пазь-

ней вернемся да праблемы, можна ці не, напрыклад, жанчын і гомасэксуалістаў, разглядаць у якасьці меншасьцяў.

Пазьнейшыя аўтары аддалі больш увагі (чым Уірт) пытаньням палітычнай дамінацыі, што выкарыстоўваюцца групай большасьці. Гэтая дамінацыя выяўляецца ў неабмежаваным доступе і кантролі за рэсурсамі: доступе да медыцынскага забесьпячэньня, працы, харчаваньня, адукацыі, багацьця — да таго, што дазваляе адной групе кантраляваць жыцьцёвыя шанцы астатніх. Усё гэта — большая палітычная ўлада, якая дазваляе дыскрымінаваць, ставіцца да меншасьцяў несправядліва, што ў сваю чаргу можа вагацца ад стварэньня стэрэатыпаў да поўнага іхнага зьнішчэньня.

## Ідэнтыфікацыйнасьць

Прапанаваны Ўіртам крытэр ідэнтыфікацыйнасьці таксама патрабуе некаторага прасьвятленьня. Для дамінуючай групы значна лягчэй прыпісваць меншасьці больш нізкі статус па нейкіх унікальных прыкметах, чым па іх становішчы ў грамадзтве. Гэтае стаўленьне вядома як „безь віны вінаватыя” (*blaming the victim*). Яно падыходзіць ня толькі да добра знаёмых расавых групаў, але таксама і да рэлігійных меншасьцяў, гомасэксуалістаў і г.д. Іншыя аўтары зьвярнулі ўвагу на сучасныя формы расізму, дзе „культура” набывае такое значэньне (гл.ніжэй), што пачынае граць ролю „другой натуры”. Іміграны, напрыклад, могуць дыскрымінавацца на падставе іхнай культуры. У такіх выпадках нормы, каштоўнасьці, вераваньні і звычкі, характэрныя ім, выкарыстоўваюцца для абгрунтаваньня іхнай істотнай адрознасьці і ніжэйшага статусу ў параўнаньні з прадстаўнікамі большасьці.

Якасьці „ідэнтыфікацыйнасьці” зараз вельмі падыходзяць, як, напрыклад, у выпадку з Паўночнай Амэрыкай, дзе публічны дыскурс перапоўнены размовамі аб „заўважных меншасьцях”. У сапраўднасьці, „заўважнымі” лічацца адрознасьці, якія маюць сацыяльнае значэньне. Такім чынам, паўночна-афрыканцы будуць найбольш заўважацца ў Парыжы, а не ў Манрэалі ці Нью-Ёрку.

Кажучы іншымі словамі, ідэнтыфікацыйна „розныя” рысы не да канца тлумачаць сілу адрознасьцяў, якія іх легітымуюць і спрыяюць іхнаму выкарыстаньню. Больш за тое, ідэнтыфікацыйнасьць не пацьвярджаецца самімі меншасьцямі. Напрыклад, гэбраям у нацысцкай Нямеччыне было загадана насіць жоўтую „зорку Давіда” выключна таму, што іхная меркаваная „адрознасьць” ад астатняй часткі насельніцтва, нягледзячы ні на што, заставалася незаўважнай, ілжывай, вымушала штосьці дадаць да таго гратэскнага вобразу, які быў выбудаваны нацыстамі ў кіно і прэсе. У іншых выпадках, як мы гэта пабачым, наданьне ідэнтыфікацыйнасьці зьяўляецца элемэнтам разьвіцьця сьвядомасьці самой меншасьці.

## „Новыя” меншасьці

Гэта падводзіць нас да пытаньня аб тым, што можа быць названа „новымі меншасьцямі. Апошнія гады выявілі рост сьвядомасьці групаў, час ад часу розных па тыпу, якія лічаць сябе дыскрымінаванай меншасьцю. Жанчыны, напрыклад, трапляюць пад дэфініцыю, прапанаваную Ўіртам, вельмі добра: яны заўважна іншыя, падпадалі неаднаразова пад дыскрымінацыю, а ў апошнія дзесяцігодзьдзі ўсьвядомілі — гэта адбываецца менавіта таму, што яны жанчыны. Але толькі ў 70-х сацыялягі пачалі разглядаць іхны статус асобна ад мужчын, да якіх яны былі раней прывязаныя, і пачалі дасьледаваць стан жанчыны ў кантэксьце праблемаў сацыяльнай гіерархіі і стратыфікацыі. І сапраўды, дыфэрэнцыяваны доступ жанчынаў да багацьця, аховы здароўя, а ў некаторых грамадзтвах нават да ежы, прыводзіць да высновы, што яны „Меншасьць не па лічбах” (як назвала Разалін Дуоркін свой артыкул, прысьвечаны гэтай праблеме).

Гомасэксуалісты зьяўляюцца яшчэ адной „новай” меншасьцю, асабліва калі паглядзець на разьвіцьцё іхнага групавога ўсьведамленьня тых пакутаў, якія яны перажылі з прычыны сваёй сэксуальнай ар'ентацыі. У гэтым выпадку ідэнтыфікацыйнасьць мае спэцыфічны зьмест. Шмат гэяў і лесьбіянак гэты рост усьведамленьня сацыяльнай несправядлівасьці да іх зьвязваюць з „выхадам навонкі”, гэта значыць, з афішаваньнем сваёй сэксуальнай ар'ентацыі. У Злучаных Штатах „аўцінг”, ці публічная дэманстрацыя сваёй гомасэксуальнасьці, зьяўляецца стратэгіяй, якую падтрымлівае частка

„блакітных”, праўда, гэта больш пагроза, чым рэальная практыка.

Наступнай сацыяльнай катэгорыяй, якую варта разглядаць як меншасьць, праўда незаўсёды, зьяўляецца катэгорыя людзей сталага ўзросту. Дыскрымінацыя, заснаваная на гэтай падставе з найманьнем на працу і вымушаным сыходзе зь яе, паспрыяла станаўленьню групавой сьвядомасьці ў Паўночнай Амэрыцы і Заходняй Эўропе — там, дзе сучасны капіталізм зьвязваецца з дэвальваваным статусам асобаў старэйшага ўзросту. Прыкладам палітычнай актывізацыі гэтых групаў зьяўляецца стварэньне ў ЗША арганізацыі „Шэрая Пантэра”; а ў Італіі пэнсіянэры правялі ў апошнія гады некалькі палітычных дэманстрацыяў. Глухія — яшчэ адзін прыклад сацыяльнай катэгорыі, якая якраз знаходзіцца ў працэсе сваёй актывізацыі.

Існуе шмат сучаных прыкладаў таго, як абдзеленых лёсам людзей рознага паходжаньня лічаць гамагеннай групай зь нізкімі маральнымі якасьцямі. Эцін Балібар, напрыклад, сьцьвярджае, што катэгорыя „эміграцыі” (ці „эмігрантаў”) сёньня функцыянуе як замяшчальнік панятку расы. Да прыкладу, у Канадзе звычайнымі зьяўляюцца выказваньні пра ўцекачоў, як пра вельмі непажаданых імігрантаў, якіх прадстаўляюць „незважаючымі на чаргу выскачкамі”, злачынцамі, „махлярамі дабрабыту” і г.д. Некалькі гадоў таму агульнанацыянальная тэлевізійная кампанія Злучаных Штатаў паказала некалькі караценькіх інтэрвію з прахожымі, і выявілася, што „бяздомных” часта лічаць гамагеннай групай, у якую ўваходзяць людзі маральна непрыймальныя, самі вінаватыя ў тым становішчы, у якое патрапілі. Калі такія стэрэатыпы захаваюцца і надалей, вельмі верагодна, што гэтыя сацыяльныя катэгорыі створаць сваю групавую свядомасьць меншасьці.

## *Сьвядомасьць меншасьці*

Вышэй пералічаныя прыклады паказваюць, што фармаваньне меншасьці зьяўляецца сацыяльным і гістарычным працэсам. Адным з ключавых яго элемэнтаў ёсьць разьвіцьцё сьвядомасьці тых, хто закрануты праблемай агульнай дыскрымінацыі як прадстаўнікі гэтай катэгорыі. Такім чынам, тое, што ў адзін гістарычны пэрыяд можа паўстаць як сацыяльная сукупнасьць, ператвараецца ў палітычна сьвядомыя меншасьці ў другі пэрыяд.

Як зазначалася раней, стэрэатыпы, якія выкарыстоўваюцца ў дачыненьні да меншасьцяў, звычайна „істотнага характару”; гэта значыць, што яны тычацца адрозьненьняў, якія зьяўляюцца хутчэй біялягічнымі ці культурнымі, але ў любым выпадку спрадвечнымі, фундамэнтальнымі і прыдатнымі да зьменаў. У той самы час прадстаўнікі групы меншасьці могуць засвоіць гэтае ўяўленьне аб адрознасьцях „істотнага характару” самі, асабліва калі іхныя характэрныя рысы выглядаюць унутрана непадобнымі да рысаў большасьці; некаторыя дэманстрацыі нягроіднасьці, з аднаго боку, і фемінізм, з другога, можна разглядаць у сьвятле менавіта гэтага. У кантэксьце перасьледу ці дыскрымінацыі вельмі верагодна, што прадстаўнікі меншасьці будуць самі па сабе ствараць сітуацыю, у якой вызначэньне іх „іншымі” зьяўляецца асноўным, і, магчыма, адзіным прыдатным элемэнтам іхнай сацыяльнай ідэнтычнасьці.

Аднак, мы перакананыя ў тым, што сьвядомасьць меншасьці гэта ня толькі вузкая праблематыка з адным наборам пытаньняў, што датычыць толькі аднаго аспэкту сацыяльнай ідэнтычнасьці, бо вельмі верагодна, што яна (сьвядомасьць) стане асновай больш шырокай салідарнасьці зь іншымі групамі, якія знаходзяцца ў падобным становішчы. Словамі Альбэрта Мэмі: „Усе прыгнечаныя нагадваюць адзін аднаго; калянізаваныя народы, гэбраі, бедныя, жанчыны... Аднолькавыя пакуты прыводзяць звычайна да аднолькавых дзеяньняў”. У наш час не папулярна адстойваць салідарнасьць, яшчэ ў гістарычны пэрыяд зазначаную няспынным ростам сьвядомасьці і яшчэ вельмі слабым сяброўствам, якое не магло стаць адным зь відаў калектыўнага індывідуалізму, але ў справе стварэньня чалавечай супольнасьці такая салідарнасьць была б, магчыма, нашай самай лепшай надзеяй.

*З ангельскай мовы пераклаў*
*Алесь Загурскі*

Інтэрвію з намеснікам прэзідэнта беларускага згуртавання татараў-мусульман „Аль-Кітаб" — ***Канапацкім Ібрагімам Барысавічам.***

***— Распавядзіце, калі ласка, пра сваю арганізацыю, чым яна займаецца, якія мэты перад сабой ставіць?***

— Ёсць пра што расказаць, бо той шлях, які прайшла наша суполка — беларускае згуртаванне татар-мусульман „Аль-Кітаб" — амаль сямігадовы. Спачатку суполка ўзнікла, як гарадское згуртаванне пры Мінскім гарадскім фондзе культуры, а 23 чэрвеня 1991 года, на з'ездзе, было вырашана стварыць рэспубліканскую арганізацыю. На гэты з'езд з'ехаліся прадстаўнікі амаль усіх рэгіёнаў кампактнага пражывання нашых татар. Быў абраны прэзідэнт — Шабановіч Абу-Бякір, тады ён працаваў дырэктарам СШ № 65, а цяпер узначальвае навукова-метадычны цэнтр пры Міністэрстве культуры. Мы зарэгістраваныя, маем свой статут і сімвалы. Наш сцяг вельмі падобны да беларускага гістарычнага бел-чырвона-белага, але наш мае сімвалы паўмесяца і зоркі. Пад гэтым сцягам некалі выступалі тутэйшыя татары, нашыя продкі. Мы вельмі шануем свае адметныя гістарычныя традыцыі і стараемся прытрымлівацца іх. Напрыклад, у нас, мусульман, пятніца лічыцца днём адпачынку, як у хрысціян — нядзеля, а ў гэбраяў — субота. Але, нягледзячы на ўсё гэта, мы, на жаль, жывем у дзяржаве, якая забылася на культурныя традыцыі і правы нацыянальных меншасцяў. Таму наша задача — выжыць у гэты перыяд, не страціць сваёй нацыянальнай годнасці, захаваць памяць продкаў, сваю культуру і мову. І галоўная мэта нашай арганізацыі — гэта адраджэнне невялікай народнасці. Так, я не памыліўся, сапраўды народнасці. Некаторыя кажуць, што мы — этнічная нацыя, ці нацыянальная група, але я з такім вызначэннем не згодны. Наша народнасць сфармавалася на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў XIV-XVI стагоддзях і адрозніваецца ад крымскіх, сібірскіх, волжскіх і іншых татараў. Я акцэнтую на гэтым увагу, бо мы, у адрозненні ад ахрышчаных татараў, з'яўляемся славянамоўнай цюрскай групай, якая вызнае іслам. Таму наша задача — захаваць яшчэ існуючыя выспачкі нашай культуры, мовы, рэлігіі. Гэта тычыцца ўсіх рэгіёнаў, дзе жывуць нашыя татары.

***— Скажыце, калі ласка, некалькі словаў пра тое, з чаго пачынала ваша суполка?***

— Наша суполка збірала людзей-актывістаў і першыя, хто прыйшлі, былі Абу-Бякір Шабановіч — наш прэзідэнт, а таксама наш цяперашні духоўны кіраўнік — Ісмаіл Мустафавіч Александровіч. Мы заявілі аб адраджэнні мовы, культуры, традыцыяў, але гэта не значыць, што да нас павінны ісці толькі татары, дзверы нашай арганізацыі адчынены ўсім, хто хоча цікавіцца нашай гісторыяй. Суполка пачала выдаваць квартальнік „Байрам". Гэта першае выданне татараў на Беларусі, таму і далі назву „Байрам", што азначае „свята". У вытокаў гэтага выдання, стаяў наш энцыклапедыст, лаўрэат дзяржаўнай прэміі — Якуб Якубоўскі. Цяпер ён працуе над стварэннем энцыклапедыі татараў Беларусі, Літвы і Польшчы. Яна будзе змяшчаць трыццаць тысяч артыкулаў, дзесятая частка з якіх будзе належаць самому Якубу Якубоўскаму. У нас шмат аднадумцаў, людзей, прывязаных да справы адраджэння спадчыны. Мы актыўна ладзім канферэнцыі і прымаем у іх удзел. Дзякуючы чаму мы ўжо атрымалі шмат рэкамендацыяў, якія, як здавалася, дапамогуць нам рушыць нашу дзейнасць далей. Але, на жаль, у якія б дзяржаўныя ўстановы мы з імі не звярталіся, паўсюль нашыя паперы так і ляжаць „мёртвым грузам". Напрыклад, 19 снежня намі была праведзена канферэнцыя, прысвечаная 75-ым угодкам беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. На канферэнцыю прыйшлі народныя пісьменнікі Беларусі Я.Брыль, Р.Барадулін, Н.Гілевіч і інш. Вельмі прыемна адчуваць увагу і падтрымку гэтых людзей, бо мы заўсёды мелі добрыя адносіны з іншымі суполкамі, асабліва з гэбрайскай, з польскай. Нас аб'ядноўвае тое, што мы стаім на пазіцыях незалежнасці, патрыятызму і разумнага нацыяналізму.

***— У гэтым годзе татары адзначаюць вельмі важную падзею — 600 год з таго часу, як татары пачалі засяляцца на тэрыторыі славян. Скажыце, калі ласка, некалькі словаў пра гэты гістарычны факт.***

Як гісторык, які вывучае гістарычныя працэсы, я магу перакананна сцвярджаць: унікальным з'яўляецца той факт, што на працягу 600-гадовай гісторыі, як існуе наша народнасць, татары імкнуліся захаваць сваю спадчыну. Па апошніх падліках нас цяпер недзе 12,5 тысячаў, гэтая колькасць вагалася ад 10 да 15 тысячаў. На тэрыторыі Беларусі мы жылі заўсёды з часоў Вялікага княства Літоўскага. Нашыя продкі былі спрадвечнымі вайскоўцамі. Гэта была шляхта, якая не плаціла падаткаў, і, калі нехта ці нешта пагражала роднай зямлі, станавілася пад баявыя сцягі і сваёй крывёй бараніла радзіму. 600 год — гэта не мала. Па меркаванні ЮНЭСКА, калі народ жыве на нейкай тэрыторыі 500 год, то ён лі-

чыцца карэнным народам. Мы ўмоўна бярэм за дату 1397 год, але можна зазірнуць і ў XIII стагоддзе. Пытанне пра паходжанне і з'яўленне татараў на тэрыторыі сучаснай Беларусі прыцягвала ўвагу гісторыкаў, філолагаў і этнографаў. Вучоныя па-рознаму тлумачаць гэта, і, канечне, існуе шмат спрэчных момантаў. Польскі гісторык Ян Длугаш, які быў амаль што сучаснікам тых падзей, якія разгортваліся ў XIV-XVI стагоддзях, падае нам не заўсёды аб'ектыўныя звесткі. Напрыклад, ён распавядае нам пра тое, што ў Грунвальдскай бойцы ўдзельнічала толькі трыста татараў. Але ж да Вітаўта прыйшла цэлая конніца, каб дапамагчы ў барацьбе з крыжакамі, бо існавала дамова паміж Вітаўтам і Джэлаладзінам — старэйшым сынам Тахтамыша, які збег да двара Вітаўта, нават быў некаторы час лідскім старастам, але пра гэта мала хто ведае. Таксама тым жа Длугашам даследуецца той гістарычны факт, калі вялікая частка татарскага насельніцтва ішла з Чарнамор'я і паўднёвых стэпаў, і пасялялася на тэрыторыі сучаснай Беларусі, Літвы і Польшчы. Гэта мы і лічым адлікам свайго пражывання.

***— Як ваша суполка збіраецца адзначаць гэтую падзею? Ці будзе прымаць удзел у гэтым дзяржава, бо я ведаю, што, напрыклад, польскі ўрад выдаткаваў вялікія сродкі на гэтае свята?***

Мы не спадзяемся на вялікую дзяржаўную дапамогу, канечне, нам дапамагаюць, але ўсё ўпінаецца не толькі ў фінансавыя сродкі, але і ў стэрэатыпнае мысленне:„Мы сваім беларусам дапамагчы не можам, а тут яшчэ нейкія нацыянальныя меншасці. Яны — татары, хай ім дапамагае Татарстан". Але чаму Татарстан? Мы не маем да яго ніякага дачынення. Так, мы з імі сябруем, сустракаемся, але я яшчэ раз падкрэсліваю, што мы тутэйшыя татары, асобны народ са сваім менталітэтам. Трэба гэта ведаць і памятаць, бо славяне, як і татары адна протаэтнічная група, але ёсць і беларусы, і ўкраінцы, і палякі і г.д. На працягу пэўнага часу склаўся стэрэатып у стаўленні да праблем нацыянальных меншасцяў, таму на вялікую дапамогу наша суполка не разлічвае. З дапамогай Універсітэта Культуры 27-28 сакавіка гэтага года мы правялі канферэнцыю пад назвай „Праблема вывучэння і захавання спадчыны татарскага народа на тэрыторыі Беларусі". Гэта была не столькі навуковая, колькі практычная канферэнцыя, бо былі запрошаныя аддзелы культуры, кіраўнікі 25-ці нашых абшчынаў, каб разам вызначыць напрамкі нашай працы. Свята скончыцца, а трэба будзе нешта рабіць далей. Мы марым стварыць музей. Першыя крокі на гэтым шляху ўжо зробленыя, бо мы ўжо пачалі збіраць экспанаты для будучага музея. А таксама, падчас нашага свята, ва Ўніверсітэце Культуры будзе дзейнічаць невялічкая экспазіцыя, прысвечаная традыцыям і культуры татарскага народа. У Вільні на дзяржаўным узроўні будуць адбывацца вялікія ўрачыстасці: там сем дзён будуць святкаваць, прымаць гасцей. Прэзідэнт Літвы афіцыйна заявіў, што народ памятае пра тое, што зрабілі татары для Літвы, таму дзяржава павінна аддаваць даніну павагі літоўскім татарам. У Польшчы таксама рыхтуецца свята, мы атрымалі ад іх праграму, па якой дзяржава выдзяляе ім недзе каля 200 тысячаў даляраў на ўрачыстасці. Там таксама сур'ёзна ставяццада правядзення такога кшталту мерапрыемстваў. Мы таксама звярталіся да ўрада па дапамогу і цяпер, і яшчэ ў часы Кебіча, але беспаспяхова. Цяпер створаны Камітэт па справах нацыянальных меншасцяў, які ўзначальвае А.Білык, таму, хочацца спадзявацца, што, можа, нешта зрушыцца з месца. Ёсць, канечне, дапамога з Цэнтра нацыянальных культур, але яны шмат запланавалі таго, чаго нам не патрэбна. Адбудзецца канферэнцыя, а таксама плануецца правядзенне свята Караван-Байрам, але як яно будзе праходзіць — ніхто сабе не ўяўляе. На ўсё гэта патрэбныя грошы, але які будзе вынік? Не ведаем... Таму мы вырашылі самі з дапамогай нашых абшчын адчыніць мячэць у Навагрудку. Там сёлета таксама вялікае свята — 200-годдзе навагрудскай мячэці. Вось такія ў нашай суполцы планы. На ўзроўні дзяржавы таксама трэба б было паруліцца, таму што воляй лёсу татары апынуліся на тэрыторыях Беларусі, Літвы і Польшчы. Асноўная частка жыве тут, на Беларусі, — гэта 12,5 тысяч. Нам трэба б было правесці гэтае свята, так як у Польшчы ці ў Літве, каб узняць імідж, прэстыж нашай краіны і стаўленне да праблемаў нацыянальных меншасцяў — адной з важнейшых адзнак дэмакратычнага грамадства.

***Гутарыла Святлана Піскун.***

## Інтэрвію з ***Нардштэйнам Міхаілам Саламонавічам***
(былы галоўны рэдактар газеты „Авів" ).

***— Я знаю, что вы были главным редактором газеты „Авив", затем не долго просуществовавшей газеты „Авив хадаш", потом вновь „Авив". Это единственное издание еврейских организаций в Беларуси. Расскажите, пожалуйста, о вашей газете.***

— Авив, что означает „весна" — орган еврейских организаций и общин. Газета создана в марте 1992 года, её зададача — возрождение еврейской культуры, консолидация белорусских евреев, укрепление дружбы между евреями и не евреями как в Беларуси, так и вообще на земле, разнообразная информация. За всё время существования газеты вышло двадцать три номера. Газета была задумана как ежемесячная, но из-за финансовых трудностей этого нам не удалось — выходила тогда, когда были деньги. И по сей день газета испытывает финансовые затруднения, потому что нам фактически никто не помогает. Государство немного помогало во времена Кебича, но этого хватило только на два выпуска. А нынешние власти никак не отзываются на наши просьбы. Полагаю, что не нужно доказывать, что евреи — это часть белорусского народа, и развитие еврейской культуры — развитие части белорусской культуры. Но доказывать, взывать — это уже не в наших силах. Хотя доказывать мы ещё можем, но рассчитывать на какую-то помощь сейчас смешно. Газета выходила сначала на шестнадцати страницах, теперь на двенадцати. В нашей газете выступали и выступают писатели, поэты, учёные, публицисты. Я назову вам только несколько имён: Василь Быков, Рыгор Барадулин, Валентин Тарас, Светлана Алексиевич, Янка Брыль, Ирина Климашевская, еврейские писатели, поэты, публицисты. С самых первых выпусков газета привлекла к себе внимание, о ней писали и за рубежом, и у нас. О ней передавала радиостанция „Свабода". Мы получили много отзывов читателей из различных городов, как бывшего Союза, так и Израиля, США. У газеты появилось много друзей. Я считаю, что это не только моя заслуга, как редактора, конечно, какое-то и я имею к этому отношение, но прежде всего это заслуга наших авторов. В то время, когда только появилась наша газета, выходили такие прокоммунистические издания как : „Политика", „Позиция", „Прогноз", „Славянские ведомости", „Мы и время", в которых было несколько ругательных публикаций в адрес „Авив". Например, в одной из них, говорилось, что газета „Авив" поучает славян, хотя на самом деле мы никого не поучали. А также профессор Кучеров утверждал, что иудаизм — „плохая" религия, по сравнению с христианством, ругал Талмуд. По этому поводу была публикация в „Народной газете" о том, что профессор Кучеров пытается отменить иудаизм. Это звучит также смешно как, например, отменить христианство или ислам. Вести на эту тему дискуссию в среде цивилизованных людей нет никакой необходимости, так как иудаизм породил две мощные ветви: христианство и ислам. Такое может утверждать либо сумасшедший, либо вообщем-то человек невежественный.

***— Я знаю, что какое-то время издавалась газета „Авив хадаш" — „Новая весна". Чем было обусловлено возникновение новой газеты и почему она перестала существовать?***

— Не очень приятно возвращаться к этим временам. Дело в том, что газету „Авив" сначала финансировал „Сахнуд" — еврейское агенство, затем — израильский фонд „Культура и возрождение в диаспоре", потом появилось посольство. Первый секретарь этого посольства, господин Виктор Бенцви, в беседе со мной заявил, что они согласны финансировать нашу газету, но при условии, если восемьдесят процентов всей газетной площади будет принадлежать теме Израиля. Я ответил решительным отказом, потому что газета прежде всего рассчитана на белорусских евреев, у которых немало своих проблем. Мы, конечно, писали и будем писать об Израиле, но не в такой пропорции. К Израилю мы относимся хорошо и не собирались ни тогда, ни теперь идти на конфронтацию с израильскими властями. Израиль — духовная родина евреев, центр всего мирового еврейства. Но зачем нам ставить такие условия? В Израиле выходит немало русскоязычных газет, привозите их сюда, знакомьте читателей с жизнью Израиля, мы только спасибо скажем. Были у нас тогда трения и внутри объединения. Я ненавижу всякую цензуру — за годы работы в военной печати, я нахлебался этого, поэтому возникла мысль создать независимую газету. Мы её создали, и вышло два номера „Авив хадаш". Мы критиковали наше руководство, даже в некоторой степени тех израильских чиновников, которые позволяли себе вмешательство в наши внутренние дела, в том числе и господина Бенцви. В конце концов наши финансовые возможности иссякли, потому что газета финансировалась на добровольные пожертвования, ведь республика наша бедная. Мы вынуждены были прекратить выпуск газеты. Весной 1996 года я обратился к нынешнему президенту белорусского объединения еврейских организаций и общин Леониду Менделеевичу Левину. Я сказал ему, что у нас нет сейчас никакой газеты

— ни „Авив", ни „Авив хадаш", но ведь читатели не виноваты, что у нас какие-то разногласия, трения. Я предложил сосредоточить внимание на том, что нас сближает, а не разъединяет. Я полагаю, что и Левин, и я какие-то выводы для себя сделали, потому что было сделано изрядно ошибок с обеих сторон. Поэтому было решено продолжить издание „Авив", и теперь мы работаем в тесном контакте. Вышло уже пять номеров возобновлённой „Авив". Вот чем было вызвано появление „Авив хадаш", в ней мы писали о культуре, об истории еврейского народа, вообщем-то продолжали ту же линию, что и в „Авив". Было много критики в „Авив хадаш", иногда даже с перехлёстом — это я должен признать как недостаток газеты. Многое было накручено: личные амбиции, борьба за власть, поиски компромата. Я считаю, с высоты прожитых лет, что нужно быть несколько мягче, добрее, спокойнее. С годами мы должны становиться мудрее, должно быть меньше злобы, непримиримости и больше позитивизма, конструктивности, желания найти общую точку зрения, конечно, там, где есть компромиссы. Мы переболели этой болезнью, чтобы двигаться дальше. В каждом движении, партии бывают такие кризисные моменты, это тяжелый путь, но он неизбежен. Был над газетой суд в 1994 году. Один ветеран разобиделся на нашу газету и на меня лично. Но когда стали разбираться, мы выиграли это дело. Вот такая история газеты „Авив хадаш".

***— Теперь я хотела бы поговорить с вами об антисемитизме. Что вы вкладываете в понятие „антисемитизм"?***

— К великому сожалению, антисемитизм существует, он очень живуч. Конечно, у нас в Беларуси он существует не в такой форме, как в тоталитарном государстве СССР, тогда он был государственным, это была государственная политика. Выражался он тогда вот в чём: не допускать евреев на какие-то высокие государственные посты, запрещать какие-то еврейские организации, не выходила еврейская пресса. Еврейская жизнь была полностью парализована, чинились препятствия тем, кто хотел уехать на свою историческую родину. Я могу сказать, что за двадцать пять лет службы в армии я нахлебался такого антисемитизма. Например, меня выдвигают на вышестоящую должность, скажем, как военного журналиста, меня хотят взять в центральный орган „Красная звезда". В редакции газеты меня знают, со мной беседуют, но когда дело доходит до отдела кадров, вспыхивает красный светофор. Мне ничего никто не объясняет или придумывается надуманный повод, например, вам уже сорок три года, а мы берём до сорока двух лет, но я знаю, что в газете работают люди разного возраста, потому что я знал, кто работает в редакции и так далее. Я не могу сказать, что в нашем государстве сейчас существует такой антисемитизм. Возможно, что есть евреи и сейчас на руководящих должностях, никто не запрещает теперь наши организации, которые возникли несколько лет назад, существует свыше ста еврейских организаций на территории современной Беларуси, газета „Авив" выходит, есть другие издания. Каких-либо, в этом отношении, притеснений со стороны государства не существует. Но почему мы говорим об антисемитизме, потому что есть бытовое понятие антисемитизма. То что внедрялось веками, например, что церковь внушала людям, своей пастве, что евреи плохие, они Христа распяли. Есть День Святого Гавриила, и газета „Церковное слово" опубликовала статью, что убили шестилетнего мальчика — еврея, выкачали кровь из него — вот такое злодейство. Естественно, что всё это возбуждает людей, это всё откладывается в сознании, подсознании. У людей возникает мысль, что евреи — это какое-то исчадие ада, среди них иногда могут быть хорошие люди, но в целом — это плохой народ. Но тем не менее этот миф, этот предрассудок очень живуч. Я подошёл к самому главному: чего же я хочу от нашего радимого государства? В своей статье „Мракобесие", в „Народной воле" за 1996 год, я размышлял, откуда на белорусской земле взялись десятки тысяч палачей-добровольцев, которые убивали евреев ? Ведь эти люди выросли не в Германии, они не читали „Mein Kampf" Гитлера. Они пели наши песни: броня крепка и танки наши быстры. Были они и в пионерах, и в комсомоле, но пришли оккупанты и сказали им убивать евреев, и они охотно стали убивать. Откуда это? Есть смысл над этим задуматься... Откуда массовое злодейство? В любой стране есть маньяки, люди с какими-то отклонения от психических норм — это понятно, мы имеем дело с генами — это ещё не до конца изучено медициной, а тут проблема — социальная. Я задался вопросом — а что делает наше государство, чтобы этого не было, как идёт воспитание людей? И я пришёл к выводу, что это воспитание в духе талерантности, уважительности к любому народу у нас поставлено, мягко говоря, плохо, а если более резко сказать — отвратительно. В Беларуси было уничтожено, по последним подсчётам, восемьсот десять тысяч евреев, вдумайтесь в эту цифру. Сейчас в Беларуси десять миллионов, и если уничтожить восемьсот тысяч, а тогда было меньше населения — это уже катастрофа, а для евреев это очень большая катастрофа. Казалось бы Беларусь, которая на себе испытала весь ужас фашистской оккупации, нынешнее правительство республики и нынешний президент должны задуматься о том, чтобы больше такого никогда не было. К великому сожалению, наш президент Лукашенко Александр Григорьевич, заявил о своих симпатиях к Гитлеру, что, дескать, он поднял Германию, но как можно говорить — „поднял"? Он опустил её в бездну

мракобесия, если убийство стало государственной политикой — это что? Поднять или опустить? Сейчас мы общаемся с немцами, вчера беседовали с первым секретарём посольства Германии, немцы сейчас ужасаются, как это могло случиться? Там антисемитизму дан решительный бой, там не допускают фашистских организаций. Германия переболела этой болезнью, и я радуюсь за это государство, очень мудро поступили руководители, которые покаялись, наверное, начиная с Конрада Аденауэра. Это был мужественный акт, они переступили через свои амбиции, а ведь народ был заражён этой болезнью, начиная с юнцов и заканчивая стариками. Задумавшись, что такое фашизм и откуда берётся антисемитизм, приходишь к выводу, что фашизм очень живуч. Если наши власти будут сквозь пальцы смотреть на все эти выходки, то и у нас может быть фашизм. Фашизм — явление интернациональное, а не национальное, и теперь центр фашизма переместился в Россию. Там больше всего выходит антисемитских газет, где-то свыше стапятидесяти, они идут и к нам в Беларусь. Так вот, если сейчас говорить об антисемитизме, то сегодня является объективным то, что мы наблюдаем: вандализм на еврейских кладбищах, увы, имеет место, причём массовый вандализм. В 1991 году, в Борисове, повалено около семидесяти еврейских памятников, в 1994 году — свыше девяноста памятников, осквернена братская могила, поломаны деревца, высаженные в честь праведников, это вообще надругательство над героями белорусского народа. Публикации в газетах: „Знамя юности" за июль 1995 года — появляется статья об убийстве царской семьи, в которой все смертные грехи, касающиеся убийства царской семьи, приписывают евреям. Газета „Семь дней" в 1996 году пишет о чернобыльской катастрофе, и автор Шпадарук утверждает, что это диверсия всех тех, кто посвящён в тайны сионизма, знают, что все сатанинские дни начинаются с 26 апреля, поэтому к этому причастны сионисты, то есть евреи. Как воспринимать это? Я считаю, что это бред и подстрикательство народа. Так же газета „Знамя юности", а также газета „Белоруссия" публикуют откровения Жириновского, без всякого комментария о том, что в Беларуси средства массовой организации захватили бейтаровцы („Бейтар" — это молодёжная сионистская организация). Кстати, сейчас в Беларуси нет этой организации, была какая-то групка, но все они уехали в Израиль. Никакой отповеди не даётся, а идёт вот такая разнузданая пропаганда. Появляются надписи, листовки, открыто продавался ещё недели две назад в магазине на проспекте Скорины 19, целый набор антисемитской литературы. А именно: „Протоколы сионских мудрецов", „Протоколы красных мудрецов", писания Жириновского, газета „Русский взгляд", пропитанная ненавистью не просто к сионистам, а к евреям. Вернёмся к понятию „сионизм", у нас оно было ругательным. Что такое сионизм? Сионизм — это национальное движение еврейского народа, направленное на создание и укрепление еврейского государства, на консолидацию еврейства. Если бы русские, живущие в разных странах, считали бы Россию своей духовной родиной, если бы они хотели приехать в Россию, считалось бы это преступлением? Но сионизм стал бранным словом, появилось какое-то деление на евреев и сионистов. Любой человек, который считает себя евреем, считает Израиль своей духовной, исторической родиной. Израиль — колыбель человечества, по Библии, на горе Синай Моисею даны были десять заповедей, которые стали общечеловеческими. И если в Библии говорится об избранности еврейского народа — это не значит, что он лучше или хуже всех народов, это значит, что всевышним на него была возложена миссия быть примером. Насколько евреи выполняют эту миссию — судить другим. Вот что я думаю об антисемитизме. Я уже не говорю о том, что касается меня. Да, меня это лично каснулось, но я не хочу нагнетать мировую скорбь. Естественно, мне очень жалко дачи, которая была сожжена 1 января этого года, жалко библиотеку, жалко архив, которые там погибли. Потом были надписи, фашистская символика у входа в мою квартиру, наверное, это всё-таки акт запугивания в мою сторону, акт предупреждения. Были анонимные звонки, опять же меня запугивали. Запугать меня — это дело безнадёжное, убить можно, запугать — нельзя. Возвращаясь к этому факту, мне очень прискорбно осознавать, что в некоторых средствах массовой информации появились публикации, которые искажают факты. Так, например, в журнале „Алэф" — это журнал, выходящий в Израиле, появилась такая статейка — „Белоруссия не для евреев". Информация в этой статье поставлена буквально с ног на голову, причём с первых строк. Автор описывает ситуацию, которая якобы связана с событиями, происходящими в редакции газеты „Авив хадаш", которая уже не существует: в неё врываются „боевики" и всё громят. Я в этой статье назван полковником, хотя полковником я никогда не был, у меня звание подполковника. Но не в этом дело, а дело вот в чём, что якобы в Беларуси уже начались погромы. С какой целью писалась эта публикация, зачем? У нас нет погромов на сегодняшний день. Да, мы можем говорить об антисемитизме, мы критикуем наше правительство, хотим, чтобы оно было более целеустремлённым, в этом отношении — это наше право. Но мы не говорим о погромах. Зачем же лгать? Такие сообщения, дескридитируют борьбу с антисемитизмом, это лучший подарок антисемитам. Это — ложь, и как говорил Твардовский: „Одна неправда — нам в убыток". Изви-

ните за резкость, но я считаю автора — борзописцем. Я уже написал отзыв в газете „Авив", возможно будет публикация в одной из республиканских газет. В других средствах массовой информации — телеканал НТВ, радио „Свабода", газета „Имя", „Народная воля" — информация была достаточно объективная. Для вашего сведения, Леонид Левин, а также представитель американской организации, которая называется, по старой памяти, „Национальная конференция в защиту советских евреев", беседовали с министром иностранных дел Иваном Антоновичем, довели до него вот эти факты. Антонович, со слов Левина, возмущался и обещал принять меры. А также было написано заявление за подписью Левина, которое было доведено до администрации президента. После этого заявления исчезла некоторая антисемитская литература. Хотя, например, с моим заявлением насчёт поджёга дачи никто не разбирался, не искал какой-то истины, никто меня не вызывал, во всяком случае, я не удивляюсь. Но если хоть какие-то меры приняты, то можно порадоваться.

*Гутарыла Святлана Піскун.*

---

## Молодёжный Союз Немцев Беларуси *Хоффнунг*

— независимая молодёжная организация этнических немцев Беларуси зарегистрированная в Министерстве юстиции. Главная цель образования Молодёжного Союза — объединение молодых этнических немцев и немецкоговорящих, развитие тесных дружеских связей и многостороннее сотрудничество с демократическими молодёжными организациями европейских стран.

***Наши главные задачи:***

Занятия немецким языком; способствование распространению немецкого языка и литературы в Минске и других городах Республики Беларусь; обмен делегациями между республикой Беларусь и европейскими странами; дальнейшее развитие и укрепление культурных и национальных традиций этнических немцев.

Молодёжь немецкого происхождения, а равно и немецкоговорящая, интересующаяся развитием дружеских связей демократических молодёжных организаций как в Республике Беларусь так и за границей, может в возрасте от 16 лет стать членом Молодёжного Союза Белорусских Немцев *Хоффнунг*. Главным руководящим органом является Собрание членов Молодёжного Союза. Рабочим органом — Правление, избираемое Собранием. В Молодёжном Союзе есть упомянутый выше рабочий орган для членов Молодёжного Союза. Мы помогаем нашим студентам найти работу в свободное от учёбы время. У *Хоффнунга* есть своя стенгазета, которая называется *WIR*, и информационные листки для различных встречь и мероприятий. Члены *Хоффнунга* организовывают различные вечера отдыха и походы. Уже больше года члены нашей организации посещают бесплатные занятия намецким языком. Наши члены были на различных европейских встречах и семинарах, где имели возможность общаться с немецкоязычной молодежью из разных стран, работать в различных *Wokshops*, к примеру: работа с молодёжью, журналистика, экология и т.д. Это было очень интересно! Все видели собственными глазами, как наша молодёжь начинает хорошо говорить по-немецки. Такие встречи действуют намного лучше, чем долгие часы учёбы. А главное в этих встречах то, что молодёжь знакомится с европейской культурой, приобретает много друзей из разных стран. Это, мы думаем, очень важно для нашего будущего. Скоро уже полгода существует созданная нами детская воскресная школа. Мы делаем всё сами — уроки немецкого, занятия танцами, игровые занятия для развития нестандартного мышления. И это несмотря на то, что у нас нет своего помещения. Помещение для занятий немецким языком любезно предоставил Международный образовательный центр, помещение для воскресной школы — Центр национальных культур. В настоящее время мы вместе с детьми готовим пасхальный праздник.

*Мы искренне желаем Вам успеха*
*и всего хорошего!*

Если у Вас есть вопросы или предложения, мы с удовольствием в вашем распоряжении.
Тел.: 00375 17 2590209 (вечером)

# Канферэнцыя ў Котбусе

25—26 верасня 1996 г. у Котбусе (Германія) адбылася міжнародная канферэнцыя пад назвай „Мадэрнізацыя слоўнікавага складу еўрапейскіх нацыянальных і рэгіянальных меншасцяў". Арганізатар канферэнцыі — Котбускае аддзяленне Сербалужыцкага Інстытута.

Як вядома, у Германіі пражывае нацыянальная меншасць — лужычане або лужыцкія сербы. Галоўныя іхныя цэнтры — Баўцэн ( нямецк. *Bautzen*, лужыцк. *Budyšin*) і Котбус (нямецк. *Cottbus*, лужыцк. *Chośebuz*). Сербалужыцкі інстытут — гэта навуковая ўстанова. Займаецца ён даследаваннем мовы, гісторыі, этнаграфіі, фальклору лужычан. Загадчык Котбускага аддзялення Сербалужыцкага інстытута — доктар ***Гунтэр Шпіс***.

На канферэнцыі выступілі вучоныя шэрагу краін Еўропы. У дакладах найбольш надавалася ўвагі праблеме слоўнікавага складу літаратурных моваў і мікрамоваў малых народаў і рэгіянальных груп еўрапейскіх краін. Гэта не выпадкова. Слоўнікавы склад адзначаных моўных сістэм звычайна далёкі ад сваёй стандартызацыі. Перш за ўсё гэта датычыцца новых інтэрнацыянальных слоў (неалагізмаў), адпаведнікі якіх не выяўлены ў традыцыйных народных гаворках. Даследчыкі таксама гаварылі пра моўную сітуацыю ў рэгіёнах, якія яны даследуюць.

Шырокаму колу чытачоў мала вядомы тэрмін „літаратурныя мікрамовы". Звычайна літаратурная мова абслугоўвае ўсю нацыю. Напрыклад, беларуская літаратурная мова — беларускую нацыю, расійская — расійскую, чэшская — чэшскую і г.д. Літаратурная ж мікрамова абслугоўвае частку нацыі. Напрыклад, чакаўская літаратурная мікрамова абслугоўвае тых прадстаўнікоў харвацкай нацыі, якія карыстаюцца чакаўскім дыялектам, ніжненямецкая літаратурная мікрамова абслугоўвае носьбітаў ніжненямецкага дыялекта і г.д.

На канферэнцыі былі заслуханы даклады, у якіх ішла гутарка пра пісьмова-кніжныя мовы наступных этнасаў:

1. Фрызы ў Германіі, іх тут усяго каля 20 тысяч. У г.Брэдштэдце існуе навуковая ўстанова — Паўночна-фрызскі інстытут, які даследуе мову, літаратуру, народную культуру фрызаў Германіі. Жывуць яны на паўночным захадзе краіны. Дакладчык — прафесар доктар ***Nils Århammar***. У Нідэрландах фрызы пераважаюць у правінцыі Фрысландыя, дзе іх каля 600 тысяч. Тут існуе Фрызская акадэмія, а таксама Фрызскі інстытут пры Гронінгенскім універсітэце. Дакладчык — ***Hindrik Sijens***.

2. Фарэрцы — асноўнае насельніцтва Фарэрскіх астравоў, аўтаномнага ўтварэння ў складзе Даніі. Фарэрцаў усяго каля 40 тысяч. Дакладчык — ***Jóhan Hendrik W.Poulsen***.

3. Ірландыя — з 1921 г. — дамініён, а з 1949 г. — незалежная дзяржава (рэспубліка). Сітуацыя з ірландскай мовай у Ірландыі нашмат горшая чым, напрыклад, сітуацыя з беларускай мовай у Беларусі. Большасць ірландцаў як у горадзе, так і ў вёсцы пераважна карыстаюцца ангельскай мовай. Калі мова выйшла з ужытку як мова размоўная, яе надзвычай цяжка аднавіць. І ці магчыма аднавіц нагогул? Дакладчык — доктар ***Éamonn Ó hÓgáin***.

7. Валійцы або ўэльсцы — кельцкі народ у Вялікабрытаніі. У гэтай краіне валійцаў каля 700 тысяч, з іх валодаюць валійскай мовай прыкладна 500 тысяч. Цэнтр культурнага і нацыянальнага жыцця валійцаў — універсітэт і нацыянальны музей у Кардзіфе. Істотна падтрымліваюць цікавасць валійскага народа да сваёй культуры, гісторыі нацыянальныя фестывалі — эйстэдфоды. Дакладчык — доктар ***Bruce Griffiths***.

5. Аксітанцы — буйная этнаграфічная група на поўдні Францыі. Носьбітаў аксітанскай мовы каля 10 млн. У XI - XIII стст. на аксітанскай, ці, інакш, правансальскай мове створана багатая літаратура. Гэта так званая паэзія трубадураў. Цяпер кафедры аксітанскай мовы існуюць ва ўніверсітэтах Тулузы, Экса, Манпелье, Бардо. Дакладчык — доктар ***Hervé Lieutard***.

6. Каталонцы — народ раманскай групы, іх 6,5 млн. Жывуць пераважна ў Іспаніі, часткова ў Францыі. У апошняе дзесяцігоддзе адбываецца працэс інтэнсіўнага адраджэння культуры і мовы каталонскага народа. Сталіца Каталоніі — г.Барселона, дзе звыш 2 млн. жыхароў, універсітэт з XV ст., тэатры, музеі, выдавецтвы, шматлікія архітэктурныя помнікі. Дакладчык — ***Montserrat Serra Figueras***.

7. Баскі — старажытны народ Еўропы. Іх мова не роднасная іншым еўрапейскім мовам. Жывуць пераважна ў Іспаніі, часткова ў Францыі. Баскаў налічваецца каля 1 млн. Дакладчык —прафесар, доктар ***Miren Azkarate***.

8. Кашубы — жывуць у нізоўях Віслы, у Гданьскім ваяводстве Польшчы. Іх каля 300 тысяч. Які статус гэтага этнасу і той моўнай сістэмы, якой яны карыстаюцца? Адны лічаць,

што кашубы — гэта этнаграфічная група палякаў, другія — што гэта самастойны народ. На думку адных, кашубы гавораць на самастойнай мове, на думку другіх — на кашубскім дыялекце польскай мовы. Кашубы ствараюць сваю літаратуру, пішуць па-кашубску. Дакладчык — нямецкі вучоны, доктар ***Friedhelm Hinze***.

9. Некалькі стагоддзяў назад частка харватаў пасялілася ў Аўстрыі, у вобласці *Бургеланд*, па-харвацку — *Gradišća*. Іх нашчадкі атрымалі назву — градзішчанскія харваты. На аснове мясцовых гаворак гэтая этнічная група стварыла ўласную літаратурную мікрамову, якая адрозніваецца ад стандартнай харвацка-сербскай ці харвацкай літаратурнай мовы. Дакладчык — магістр ***Jvo Szucsich***.

10. У перыяд сярэднявечча беларусаў і ўкраінцаў нярэдка называлі русінамі. Русінамі яшчэ і зараз называе сябе ўсходнеславянскае насельніцтва, якое кампактна жыве ў паўночна-ўсходняй Славакіі, а таксама нашчадкі перасяленцаў з Карпат, што жывуць у Сербіі і часткова Харватыі. У Сербіі каля 20 тыс. русінаў. На аснове сваіх гаворак яны стварылі стандартную літаратурную мікрамову. На ёй выкладаюць у школах. Існуе багатая мастацкая літаратура, у тым ліку напісаны раманы, выдаюцца газеты, часопісы, вядуцца радыё- і тэлеперадачы. Ва ўніверсітэце ў г. Нові Сад ёсць кафедра русінскай мовы. Дакладчык — прафесар, доктар ***Julian Ramač*** (Юліан Рамач). У Славакіі этнічных русінаў каля 100 тысяч. У Прэшаўскім універсітэце ёсць кафедра русінскай мовы і літаратуры. Варыянт русінскай літаратурнай мікрамовы ў Славакіі створаны на аснове мясцовых гаворак. Дакладчык — дацэнт, доктар ***Juraj Paňko*** (Юры Панько).

У канференцыі прынялі актыўны ўдзел гаспадары — навуковыя супрацоўнікі Сербалужыцкага інстытута. Выступалі з дакладамі і ў дыскусіях: доктар ***Хельмут Енч***, ***Манфрэд Староста***, доктар ***Гунтэр Шпіс***, доктар **Хан Стэнвейк**, ***Ральф Ёлдбацар***, доктар ***Эдуард Вернер***.

Даклад аўтара гэтых радкоў гучаў так: *Вывучэнне лексікі заходнепалескага дыялектнага арэала*. Па-лужыцку: *„Pšepytowanje leksiki podwjacornopoleskego narěcnego areala"*.

Даклад прафесара доктара ***Аляксандра Дулічэнкі*** (Эстонія, Тартускі ўніверсітэт) быў прысвечаны агульным праблемам славянскіх літаратурных мікрамоваў. Іх налічваецца трынаццаць: югаслаўска-русінская, градзішчанска-харвацкая, малізска-славянская (Італія), рэзьянская (Італія), банацка-балгарская, ляшская (Чэхія), прэкмурска-славенская, кашубская, усходнеславацкая, карпата-русінская, кайкаўская (Харватыя), чакаўская (Харватыя), заходнепалеская (Беларусь).

Па розных тэарэтычных праблемах, якія датычацца нацыянальных меншасцяў і іхных моваў, выступіў нямецкі вучоны ***Ronald Lötsch***. Даклад прадстаўніка камісіі Еўрапейскага саюза ***Jan(a) Roukens(a)*** быў прысвечаны праблемам нацыянальных меншасцяў краін Еўрапейскага саюза, перш за ўсё праблеме выжывання іх моваў. Прывяду адну фразу з яго даклада: „Людзі прачнуцца, калі ўбачаць, што мова знаходзіцца ў небяспецы".

З дакладам выступіў таксама маёр ***Uwe Pilz***. Ён выказаў думку, што лужычане могуць з'яўляцца своеасаблівым мостам для розных узаемапаразуменняў паміж немцамі і палякамі. Лужычане —славянскі народ, іх мова блізкая да польскай, многія з іх валодаюць літаратурнай польскай мовай. У той жа час большасць лужычан валодае мовай нямецкай. 28 верасня 1996 г. праведзены круглы стол, на якім удзельнікі канферэнцыі выказалі свае думкі па наступных пытаннях:

1. *Was wird konkret getan, damit Neologismen akzeptiert werden, und wie ist der Erfolg?*

2. *Soll bei der Schaffung von Neologismen die innere Form der Mehrheitssprache als Ausgangspunkt genommen werden, oder soll man sich möglichst weit davon entfernen?*

3. *Unter welchen Umständen sollten alle Funktionsdomänen lexikalisch ausgebaut werden, so daß die Regional- oder Minderheitensprache funktionell der Mehrheitssprache voll entspricht?*

4. *Wann ist es berechtigt, von lexikalischem Sprachverfall zu sprechen, und wann geht es lediglich um einen natürlichen Sprachveränderungsprozeß ?*

1. *Which concrete measures are taken to secure the acceptance of neologisms? How succesful are these measures?*

2. *Should the inner form of the majority language be taken as a point of departure when coining neologisms for the minority language or, on the contrary, should one create as much distance as possible between them?*

3. *Under which circumstances should the vocabulary of the minority language be extended to all functional domains?*

4. *At which point is justified to speak of linguistic decay in respect to the lexical domain? Under which circumstances we are only confronted with natural language change?*

***Фёдар Клімчук***



# *ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ*

*Ігар Іваноў*: нарадзіўся ў 1974 г. у мястэчку Расоны Віцебскай вобласьці. Сёлета заканчвае гістарычны факультэт БДУ. З 1994 г. — рэдактар выдавецтва „УНІЯ”.

*Эммануил Григорьевич Иоффе*: академик Международной Академии изучения национальных меньшинств, профессор Белорусского государственного педагогического университета им. М.Танка, доктор исторических наук.
(220006, Минск, пр.Скорины, 39-90, тел. 233-23-79)

*Вячеслав Дмитриевич Селеменев*: директор Национального архива Республики Беларусь, кандидат исторических наук.
(220030, Республика Беларусь, Минск, ул. Восточная, д. 50, кв.93 тел. 222-32-29)

*Екатерина Сергеевна Прокошина*: ведущий научный сотрудник Института философии и права НАН Беларуси, кандидат философских наук.

*Татьяна Петровна Короткая*: старший научный сотрудник Института философии и права НАН Беларуси, кандидат философских наук.

*Аляксандра Верашчагіна*: нарадзілася ў Менску ў 1961 г. Скончыла гістарычны факультэт БДУ. Кандыдат гістарычных навук (1989 г.). Працуе навуковым супрацоўнікам ІМЭФ НАН Беларусі. Займаецца вывучэньнем канфэсійнай структуры і канфэсійнай гісторыі Беларусі.

*Галіна Вітальеўна Гусакова*: асьпірантка катэдры археалёгіі, этнаграфіі і дапаможных дысцыплінаў гістарычнага факультэта БДУ. Нарадзілася ў Менску ў 1966 г. Скончыла БДУ у 1988 г. Дасьледуе этнічную гісторыю кельцкіх народаў.

*Вольга Аляксандраўна Сабалеўская*: асьпірантка катэдры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэта. Нарадзілася ў Гродна ў 1974 годзе. Скончыла факультэт гісторыі і культуры ГДУ (1996). Дасьледуе гісторыю гэбрайскай супольнасьці Беларусі ў канцы XVIII – XIX стагодзьдзях.

*Фёдар Данілавіч Клімчук*: супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, удзельнік канфэрэнцыі ў Котбусе.



Ле Прынц. Гэбрай у нацыянальным строі. 1766.